Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 33 (1527) ГОД XXX БЕЛАСТОК 18 ЖНІЎНЯ 1985 г. ЦАНА 10 зл.

# III ПЛЕНУМ ГП БГКТ

28 ліпеня пад старшынством Аляксандра Баршчэўскага адбылося пасяджэнне III пленума Галоўнага праўлення БГКТ. Першым яго пунктам быў даклад сакратара ГП Віталіса Лубы „Задачы аддзелаў па рэалізацыі пастаноў X з'езда БГКТ". У дакладзе гаварылася аб выкананні гэтых пастаноў, аб канкрэтных справах, якія перш за ўсё павінны заўважыць аддзелы БГКТ у сваёй дзейнасці.

Затым выступілі намеснікі старшыні ГП БГКТ. Янка Зенюк гаварыў аб удзеле БГКТ у выбарах у Сейм. Ён паведаміў прысутных, што Прэзідыум ГП запрапанаваў наступных кандыдатаў у паслы: Аляксандра Баршчэўскага, Янку Зенюка, Аляксея Карпюка і Уладзіміра Юзвюка.

Аб працы Прэзідыума ГП у перыяд ад папярэдняга, лютаўскага пленума інфармаваў Кастусь Майсеня.

Пасля распачалася ажыўленая дыскусія.

Аляксандр Рафаловіч сцвярджаў, што добра ажыццяўляюцца на Сакольшчыне і Дуброўшчыне пастаўленыя X з'ездам БГКТ задачы. „Тры беларускія фэсты, пленумы аддзелаў, удзел у аглядзе беларускай песні, сходы ў гуртках, сустрэчы і супрацоўніцтва з рознымі арганізацыямі і ўстановамі — усё гэта сведчыць аб тым, што крок за крокам мы ўдасканальваем сваю працу і будзем разгортваць яе яшчэ шырэй".



У Прэзідыуме.

Валянціна Ласкевіч звярнула ўвагу на недахоп фінансавых сродкаў у працы БГКТ. „На агляд беларускай песні, на такое вялікае і важнае мерапрыемства, мець толькі 20 тысяч злотых — гэта проста непаважна. А ўжо зусім незразумела, чаму забараняецца прымаць грашовыя ўклады ад саарганізатараў тых ці іншых мерапрыемстваў". Гаворачы аб святкаванні Купалля над рэчкай Нарвай пад Войшкамі і аб фэсце ў Беластоку, арганізаваным супольна з гарадскім праўленнем ТППР у Беластоку, Валянціна Ласкевіч заўважыла: „У гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку ёсць вакальная жаночая група, але няма ў што яе апрануць, таксама мужчынскі харавы калектыў з Рыбалаў выступае ў касцюмах пажарнікаў".

Міхась Хмялеўскі паўтарыў сваю прапанову (гаварыў аб гэтым на гарадской выбарчай канферэнцыі 30 сакавіка б.г.) аб арганізаванні, пачынаючы ад наступнага, юбілейнага года БГКТ, тыдня альбо дзён беларускай культуры на Беласточчыне пры дзейснай дапамозе і актыўным удзеле адміністрацыйных і партыйных улад, а асабліва аддзела культуры Ваяводскага ўпраўлення і Ваяводскага дома культуры. Трэба імкнуцца да таго, каб тыдзень беларускай культуры штогод знаходзіўся ў календары ваяводскіх мерапрыемстваў, каб на яго можна было запрашаць мастацкія калектывы з Савецкай Беларусі і дзеячоў культуры і каб праводзіць гэты тыдзень у перыяд Купалля.

Міхась Хмялеўскі закрануў таксама некарысны для беларускай нацыянальнасці ў Поль-

(Працяг на стар. 3)

## АДГАЛОСКІ

### ДЫХАЮ ПАЛЕМІКАЙ

Не пісаў я ў „Ніву", бо не было рошчыны. А як няма рошчыны, то хлеба не будзе. „Дыхаю палемікай, як паветрам", — піша Гамільтон у сваіх „Персвазіях", што „Культура" друкуе. Палеміку Гамільтона чытаю ўжо некалькі дзесяткаў гадоў. І не таму не пісаў у „Ніву", што не хацеў. Хацеў, але не было з кім і з чым сварыцца, наступіць каму на мазалі.

Некалі я пісаў, што „Ніва" з'яўляецца двухкаляровая: чорная і белая. Нават пісаў, хто піша чорнымі літарамі, а хто белымі. І што? Каб хоць хто запярэчыў! Прызнаўся, ці адмовіўся ад чаго. Ніхто не адазваўся. Потым зачапіў я В. Петручука, А. Барскага, М. Гайдука і — таксама нічога. Ніводных адгалоскаў на зачэпкі, ніводнай дыскусіі. Затое фальклору ў „Ніве" — цэлае багацце! Да А. Баршчэўскага далучыўся В. Рудчык, М. Лукша, выстраліла ў чытачоў сваімі прымаўкамі і вершамі Аўрора. Не з'яўляецца гэта выстрал рэвалюцыйны, і можа я крыўджу Аўрору, але хай скажа хто іншы: „Ідзеш на цягнік — бяры кнігу, ідзеш у парк — бяры кнігу, ідзеш на работу — не бяры кнігі". Я б сказаў: ідзеш на работу — бяры дзве кнігі. Але гэта не пасавала б да дыдактызму, маралізатарства і павучання, чым насякнуты тэксты некаторых аўтараў.

Я хачу, каб нехта адчытаў мяне за маё пісанне, гэта сведчыла б, што прынамсі яго нехта чытае.

На канец, на дэсерт, я пакінуў адгалоскі Ф. Хлябіча („Ніва" ад 30 чэрвеня"). Апісвае Хлябіч жыццё ў даваенных беларускіх вёсках. Для памяці, каб аб гэтым жыцці які-небудзь след застаўся, дык трэба такія тэксты друкаваць. А можа нават БГКТ аб'явіць конкурс на ўспаміны аб даваенным жыцці беларусаў. Але Ф. Хлябіч выпіхае з „Нівы" артыкулы А. Барскага, што нібы артыкулы яго аб усім і аб нічым. А я — наадварот. Я „Ніву" пачынаю чытаць ад Барскага, бо ён піша ад сябе. Яго артыкулы чытаеш — і так як бы з ім гутарыў пры добрым кубку чаю. Не заўсёды можна з ім згаджацца, але прыемна пабываць з чалавекам, які мае такі самы спосаб думкі і можа сказаць нешта новае, аб чым сам ніколі не падумаў бы.

Міра Лукша ў сваіх замалёўках з жыцця ўжо даходзіць да шчырасці. Некаторыя маюць

(Працяг на стар. 4)

## З рэпарцёрскіх запісак

# СЛАВА КОЖЫНА

Кожына, што ў Бельскай гміне, вёска слаўная. Слаўная яна сваімі гістарычнымі заслугамі ў змаганні з акупантам, ды сваімі грамадска-гаспадарчымі дасягненнямі ў мірны час. І аб гэтым хачу я вам сёння, сябры, расказаць. Але найперш трэба ведаць, што Кожына расселася над рэчкай Локніцай, недалёка ад таго месца, дзе Локніца ўліваецца ў раку Нарву, па-суседску з Плёскамі і Зубавам.

*

У Кожына запрасіў мяне Уладзімір Купрыяновіч, які родам з гэтай вёскі, але ўжо даўно абсталяваўся ў Беластоку. Нягледзячы на гэта, сэрца яго асталося ў роднай вёсцы, дзе прахадзіла яго басаногае дзяцінства, дзе разам з іншымі сялянамі марыў ён аб лепшай долі.

(Працяг на стар. 6)



Вёска Кожына славіцца барацьбой з акупантам і пасляваеннымі грамадскімі пачынамі.

# III ПЛЕНУМ ГП БГКТ

(Працяг са стар. 1)

шчы працэс параўнальна хуткай асіміляцыі беларусаў, а таксама сцвердзіў, што кожны член БГКТ павінен быць не толькі падпісчыкам „Нівы“, але таксама яе прапагандыстам.

Апрача „Нівы“ вялікае значэнне ў дзейнасці БГКТ маюць кніжныя выданні прозы і паэзіі нашых пісьменнікаў. Але ў гэтай дзялянцы існуюць вялікія цяжкасці. „Чаму 800 членам СПП, творы якіх друкуюцца, плоцяць ганарары, а некалькім пісьменнікам, якія пішуць на



Удзельнікі пленума.

беларускай мове, ганарараў не плоцяць і яшчэ даказваюць, што беларускія пісьменнікі ў Польшчы павінны ствараць прозу і паэзію грамадскім чынам, бясплатна?!“ — такое пытанне паставіў Аляксандр Баршчэўскі.

За выдадзеныя кніжкі трэба плаціць друкарні сотні тысяч злотых. Каб такія выдаткі паменшыць, варта было б купіць друкарскую машыну на патрэбы БГКТ, пастулаваў Георгій Валкавыцкі.

Як правіла, за аўтарскія сустрэчы пісьменнікам плацяць ганарар, а вось нашым пісьменнікам — не. У гэтай справе БГКТ памагае Ваяводскае прадпрыемства распаўсюджвання прэсы і кніжкі „Рух“, якое не мае пісьменнікаў, але на іх мае грошы.

БГКТ мае клопаты з працаўнікамі і спецыялістамі па мастацкай самадзейнасці. Нізкая зарплата адпіхае людзей ад гэтай працы. „Чаму ў нашым таварыстве зарплаты працаўнікоў ніжэйшыя, чым у падобных установах?“ — звяртаўся Мікалай Бушко да прадстаўніка МСВ.

Васіль Петручук, які распачаў дыскусію, звярнуў увагу на некаторыя крыўдныя радыёперадачы, на няправільны падыход у іх да нацыянальных спраў.

На Беласточчыне існуе таксама праблема назваў некаторых мясцовасцей, якія часта перайначваюцца, у іх аднімаецца беларускае гучанне. Вось таму „трэба нам, — гаварыў Янка Зенюк, — стварыць пры ГП спецыяльную камісію, якая б занялася справай назваў і прадставіла гэта адпаведным уладам“.

Некаторыя выступаючыя гаварылі аб двухмоўных назвах у беларускіх мясцовасцях, аб большай пашане да беларускіх традыцый і званняў, аб названні вуліц прозвішчамі вядомых палкаводцаў родам з нашых мясцовасцей, аб памятных дошках і абелісках для беларусаў — заслужаных дзеячоў.

Васіль Антыпюк расказаў удзельнікам пленума аб выступленні харавога калектыву „Васілёчкі“ з Бельска-Падляшскага на аглядзе ўкраінскай песні ў Сопаце і сцвердзіў, што ўкраінцы багацей і лепш, чым мы, арганізоўваюць агляды сваёй песні.

Кастусь Масальскі прапанаваў, каб у лексіцы пленумаў не было слоў: „не выканана“, „не зроблена“, „не рэалізавана“. Калі такія словы гаворым, трэба сказаць канкрэтна, чаму тое ці іншае не выканана і хто за гэта вінаваты. Янка Хіліманюк жа дамагаўся, каб на пленумах не гаварылі аб усіх справах БГКТ, а каб былі яны тэматычнымі і каб дыскусія не пашыралася на іншыя справы.

На III пленуме ГП БГКТ усе прысутныя адобрылі кандыдатуры ў паслы Сейма, якія прапанаваў Прэзідыум ГП. Большасць выступаючых даказвала, што неабходна выбіраць у Сейм паслоў з беларускай нацыянальнасці прапарцыянальна да насельніцтва. Беларусы заслужылі, каб мець сваё прадстаўніцтва ў Сейме. Ненармальная гэта з’ява, калі сёння на 8 паслоў з Беласточчыны няма аніводнага беларуса, няма таксама іх у Прэзідыумах Ваяводскай ды Гарадской радаў. Аб гэтым гаварылі Алесь Баршчэўскі, Янка Зенюк, Мікалай Алексяюк, Васіль Сакоўскі, Янка Хіліманюк, Хведар Галёнка і Віктар Швед.

У дыскусіі выступіў таксама інспектар МСВ Эдвард Заёнц, які звярнуў увагу на гаспадарчыя і фінансавыя цяжкасці краіны, у сувязі з чым бюджэт БГКТ даволі цесны.

Пленум закончыўся прачытаннем прапаноў наконт далейшай дзейнасці, прадстаўленых камісіяй прапаноў на чале з Віктарам Шведам.

**Міхась Хмялеўскі**
Фота В. Рудчыка

# ПЕРАДАВІКІ

І ў бягучым годзе, па традыцыі, быў праведзены ў Ваяводскай паштовай установе ў Беластоку конкурс на званне найлепшага „акенковага“ працаўніка пошты. Прыступіла 20 найлепшых, выбраных на раённых элімінацыях, працаўнікоў. Лаўрэаты атрымалі дыпломы і грашовыя ўзнагароды.

А вось перадавікі: Малгажата Кендзерская — пошта Беласток 20, пас. „Сонечны Сток“, Юстына Вашкевіч — Монькі, Людміла Рута — Бельск, Лех Балабат — Казінцы, Гражына Фалькоўская — Вышкі, Зінаіда Валкавыцкая — Белавежа, Мар’я Залеўская — Боцькі, Крыстына Такарэвіч — Супрасль, Альжбета Бжазоўская — Лапы, Вераніка Гуль — Беласток 3, вул. Міцкевіча.

Пяцёрка найлепшых паедзе на акруговы конкурс у Ольштыне.

*

Адбыўся таксама конкурс на званне найлепшага пісьманосца. Пасля раённых элімінацый да ваяводскага конкурсу прыступіла 12 пісьманосцаў з гарадоў і 17 пісьманосцаў з вёсак.

Удзельнікі адказвалі на пытанні з галіны паштовай ардынацыі, паштовай тарыфы, бяспекі і гігіены працы, дарожнага кодэксу і гэтак далей.

Сярод вясковых пісьманосцаў званне найлепшых заваявалі: Януш Сурвіла — пошта Сухаволя, Ян Маліноўскі — Карыцін, Міраслаў Пашкоўскі — Гарадок, Генрык Філім — Белавежа, Рышард Сасінскі — Следзяноў, Пётр Карзуновіч — Чыжы, Вінцэнт Мішкель — Харошча.

У групе гарадскіх пісьманосцаў найлепшымі былі: Чэслаў Карпесюк — пошта Беласток, вул. Варшаўская, Веслаў Сахарчук — Бельск, Люба Раманюк — Гайнаўка I, Надзея Тэслюк — Гайнаўка I, Альжбета Гайко — Гайнаўка I, Віктар Насоўскі — Беласток I, Рышард Шэршань — Беласток I. Па два найлепшыя пісьманосцы з кожнай групы прымуць удзел у акруговым конкурсе ў Ольштыне.

**В. Брацкі**

*Легенды нашай зямлі*

## АБ ПАЧАТКАХ ВЁСКІ ТЫНЕВІЧЫ

Там, дзе цяпер вёска Тыневічы, калісь быў лес. У лесе стаяла адна хацінка і жыў у ёй ляснік з маці. З нараўскага праваслаўнага манастыра, шляхам на Бельск, выбраліся тры манахі. На адпачынак яны спыніліся на ўзгорку сярод лесу. Расклалі агонь. Пасля нейкага часу гэтыя манахі пабудавалі сабе тут хату і абвялі яе тынам, каб бараніцца ад дзікіх звяроў. Памалу тын разрастаўся, бо кругом сяліліся мужыкі. Людзі пачалі карчаваць лес і абрабляць зямлю.

У Нарве жыхароў, што жылі за недалёкім тынам, пачалі называць тыневічамі. Так засталося і да сённяшняга дня. Ад назвы жыхароў пачала называцца цэлая вёска. Цяпер ёсць дзве вёскі Тыневічы — Вялікія і Малыя.

*

Другі расказ. Праязджалі каля вёскі нейкія купцы. Невядома чаму купцы хацелі заехаць у вёску, ды не заехалі. З аднаго боку тына блізка да самых хатаў падыходзіў вялікі лес — ніхто праз гэты лес не хадзіў і не ездзіў. З другога боку было вялікае балота. Казалі, што ў гэтым балоце адзін праезжы ўтапіўся. Пасля таго ніхто не смеў тудою ехаць, бо там страшыла. І вось купцы глянулі, што дарогі праезжай тут няма, сказалі: дзіўны тын, і ад той пары вёска завецца Тыневічы.

Запісаў **Андрэй Гаўрылюк**

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

Włodzimierz Jarmolik — Niedoszłe korony wielkiego księcia Witolda. „Mówią wieki” (W-wa), R. 1984, Nr 11, s. 6-9 (cz. I); R. 1985, Nr , s. 6-10 (cz. II).

Michał Ambros — Publicystyka konspiracyjna na Wileńszczyźnie w okresie okupacji niemieckiej (1941-1944). „Studia Historyczne” (Kraków), R. 1984, Z. 2, s. 311-317.

Anatol Leszczyński — Obchody 40 rocznicy powstania w getcie białostockim. „Biuletyn Żydowskiego Instytutu Historycznego w Posce” (W-wa), R. 1983, Nr 4, s. 140-143.

Grażyna Jankowska — Klasycy białoruscy w ręku polskiego czytelnika. „Osnowa” (Łódź), R. 1984, Nr 7/8, s. 151-153.

Stanisław Sobczyk — Białoruskie „Azoty” bliskie Polsce. W bratnich partiach. „Życie Partii” (W- wa), R. 1985, Nr 2, s. 22-23.

Mieczysława Pąsik — Przemysł uspołeczniony województwa białostockiego w latach siedemdziesiątych. „Zeszyty Naukowe”. Filia Uniwersytetu Warszawskiego w Białymstoku, Z. 41 — Administracja i Ekonomia, Dz. E. — Prace Ekonomiczne (B-stok), T. 10 (1984 r.), s. 17-33.

Sławomir Uściański — Czy powoływać Uniwersytet Podlaski? „Odrodzenie” (W-wa), R. 1985, Nr 4, s. 9.

Barbara Kosińska — Fotografia w Białymstoku. (30 lat Białostockiego Towarzystwa Fotograficznego). „Foto” (W-wa), R. 1984, Nr 8, s. 228-230.

**П. Байко**

## БАЦЬКІ ДАПАМАГЛІ

Дзве суботы ў ліпені бягучага года прысвяцілі бацькі вучняў Беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў **Гайнаўцы** на рамонт школы. Абабілі яны дубовымі плітамі сцены на калідоры. Цяпер у школе больш прытульна і намнога прыгажэй.

**(яц)**

(Працяг са стар. 1)




высокі ўзровень, але бываюць і недапрацаваныя, як бы нехта яе паганяў.

Вяртаючыся яшчэ да Хлябіча, хачу сказаць у адказ на яго расказ аб жыцці беларускага селяніна ў даваеннай Польшчы, што я магу расказаць, якое цяжкое было жыццё селяніна пры паншчыне, калі ён быў проста нявольнікам, як Ізаўра.

Чаму я? Што замалады? Дзядзька Хлябіч, мне паншчына стаіць цяпер перад вачыма, як і тады, калі чуць свет звалакаўся з нейкай пасцелі, нацягваў белыя льняныя нагавіцы і такую ж вышываную абавязкова сарочку і ішоў у спякоту жаць панскае жыта, а вечарам сціскаў над рэчкаю сваю Маньку. Але больш падрабязна аб гэтым іншым разам, калі спатрэбіцца сягнуць памяццю ў тыя далёкія часы.

**М. Куптэль**

## АЎРОРЫ

А хто такі  
гэта можа быць?  
Гэта чалавек:  
з сэрцам мясістым,  
з розумам чыстым.  
Проста так: чалавек.

Маладая, прыгожая,  
шчырая.  
Вочы лагодныя, ціхія.  
Верная праўдзе, як мужу.  
Варта заслугі, пашаны  
ад маці і бацькі,  
ад мужа і брата,  
ад сясцёр  
— якіх не мае.  
Ад нас.

**Эмпатыя**

## АБ ПРАМІНАННІ

Алесь Барскі дае мне імпульсы для пісання. Справа ў тым, што сапраўды можна спужацца перспектывы, што праз мільярд гадоў загіне сонечная сістэма. І тады наша зямелька разам з дамамі, з гмахамі з жалезабетону, з дачамі, самаходамі, самалётамі, ракетамі, з садамі, палямі, марамі, з гарадамі і вёскамі паімчыцца ў космас ды рассыплецца ў пыл (не дай Бог жыць мільярд гадоў!).

Праўда, Барскі суцяшае, згодна са сваім зычлівым характарам, што гэта можа здарыцца няхутка. Для мяне гэта малая пацеха. Я хачу, каб зямля жыла вечна і каб вечна жылі на ёй людзі. Нікому цяпер і, напэўна, у будучыні не хочацца загінуць ад усеагульнай катастрофы. Але ў мяне горшы характар, чым у Барскага, і я скажу тое, аб чым ведаюць усе, менавіта: калі разумныя людзі добра пастараюцца, то нашу родненькую зямлю змогуць пераўтварыць у попел, не чакаючы, пакуль загасне сонца.

**Васіль Петручук**

### Беларускія прыказкі

Гэты свет, як макаў цвет: зранку расцвітае, да вечара ападае.

Два вякі жыць не будзем.

Дзень мой — век мой.

# Бацькаўшчына (2)

Рэйд „Бацькаўшчына“ гэта турыстычнае мерапрыемства, якое было арганізавана ад 17 да 21 ліпеня г.г. беларускімі студэнтамі Варшаўскага універсітэта. Рэйд у асноўным быў разлічаны на студэнтаў-беларусаў, але ўдзельнікамі былі і вучні сярэдніх школ і працуючая моладзь. Асяроддзе беларускіх студэнтаў ужо ад нейкага часу штогод арганізуе шмат турыстычных рэйдаў, табараў, лагераў і г.д. Такая форма інтэграцыі асяроддзя даволі новая — яна вынікла з агульнага ўздыму сярод студэнтаў нацыянальных меншасцей пасля пералому 1980 года.

Можа прыпомнім тут некаторыя хаця б старонкі з гісторыі паўстання таго руху. У маі 1981 г. група студэнтаў Варшаўскага універсітэта выступіла з ініцыятывай стварэння першай у пасляваеннай Польшчы арганізацыі беларускіх студэнтаў — Беларускага аб'яднання студэнтаў (БАС). Справа БАСу здаецца мне настолькі важная, калі глядзець на яе як на першапачатак, што прывяду тут словы з артыкула, надрукаванага ў 1 нумары часопіса „Сустрэчы“ пад загалоўкам „Сэрца і закон“, напісанага Іванам Гаворкам, актыўным удзельнікам усіх падзей і па сутнасці адным з арганізатараў руху. „...першы этап прадбачваў рэгістрацыю Беларускага аб'яднання студэнтаў (БАС) як легальнай арганізацыі згодна з законамі, абавязваючымі ў нашай краіне. Неўзабаве былі падрыхтаваны патрэбныя дакументы і нашыя прадстаўнікі падаліся з імі ў Міністэрства навукі, вышэйшых школ і тэхнікі. (...) На жаль, міністр адмовіў рэгістрацыі. Арганізацыя была зарэгістравана, як унутрана універсітэцкая. Ваеннае становішча, уведзенае ў краіне ў снежні 1981 г., перарвала ход спраў на некалькі месяцаў. Толькі ў лістападзе 1982 г., калі нараджалася ў цяжкіх болях новая студэнцкая арганізацыя Саюз Польскіх студэнтаў (ЗСП), праблема студэнцкіх меншасцей была зноў закранута. Дзякуючы актыўнасці і бадзёрасці групы нашых студэнтаў, у адным з пунктаў пастаноў першага кангрэса ЗСП гаварылася аб „стварэнні інстытуцыянальных і матэрыяльных умоў для развіцця грамадска-культурнай актыўнасці студэнтаў нацыянальных меншасцей у Польшчы“. І сапраўды, калі актыўнасць студэнтаў знайшла сваё месца ў арганізацыйных рамках, яна ўвідавочнілася ў дзеянні. Навуковыя семінары, турыстычныя мерапрыемствы, супольныя гульні згуртавалі моладзь, далі штуршок да сапраўднай нацыянальнай свядомасці, думак і поглядаў. Фінансавая дапамога ЗСП і сапраўднае, шчырае адданне многіх людзей справе далі відавочныя эфекты. Адным з доказаў няхай будзе студэнцкі часопіс „Сустрэчы“ (другі ўвогуле беларускі часопіс у Польшчы), два нумары якога здолеў выдаць Ян Максімюк. З часам увесь рух зацвярдзеў, набраў больш інстытуцыянальнага характару, не ўсе аказаліся настолькі спелымі, каб дзейнічаць далей у такіх умовах. Зменшылася зацікаўленасць сярод шырокіх кругоў моладзі, змяніліся таксама адносіны ў ЗСП, дзе на рух студэнцкіх меншасцей не глядзяць ужо з такой сімпатыяй, як раней. Агульна можна заўважыць нейкі заняпад. Адначасова тры гады дзеяння пакінулі глыбокі след. Мерапрыемствы арганізуюцца на ўсё вышэйшым узроўні, некаторыя праблемы, якія былі яшчэ два гады назад, перасталі існаваць. Прыходзяць новыя, маладыя людзі, багацейшыя вопытам сваіх старэйшых сяброў і свежым поглядам на свет...

Ідэя рэйду „Бацькаўшчына“ нарадзілася год таму назад. Галоўным ініцыятарам і духоўным бацькам быў Лёнік Тарасэвіч. „Бацькаўшчына“ гэта лозунг, які меў яднаць маладых беларусаў для пазнавання свайго краю. Здавалася б, няма на што глядзець — такі малы і вядомы. Але вось аказваецца, што маладому пакаленню, якое атрымоўвае адукацыю і мае амбіцыі стаць элітай народа — нацыянальнай інтэлігенцыяй, патрэбны новы погляд. Погляд, які вырастаў бы па-над круг вёскі, сваёй хаты і пастаяннага клопату пра матэрыяльны быт, які прымушаў бы глянуць на гісторыю сваёй зямлі і вучыцца ёй урэшце, як уласнай. Прымушаў бы глянуць і на рэчаіснасць як на вынік гістарычных падзей і дзеяння людзей, а не як на штосьці, што трэба толькі ўспрыняць і да чаго дастасавацца. Глянуць трэба і на людзей — як яны думаюць, да чаго імкнуцца, як жывуць. Помнікі культуры і мастацтва — на іх таксама трэба глядзець, бо гэта відавочны сведак мінулага і навука на будучыню...

Першы рэйд нельга назваць удалым, недахопы ў арганізацыі і другія прычыны не дазволілі рэалізаваць праграму поўнасцю. Сёлета выйшлі мы на „Бацькаўшчыну“ багацейшыя вопы-



**У гасцях у Яна Максімюка і яго сям'і.**

ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

## АНЮЦІНЫ ВОЧКІ, ЗЯЗЮЛЬЧЫНЫ СЛЁЗКІ

У час экзаменацыйнай сесіі я часта хаджу за стадыён „Гвардыі“, на суніцы. Вяртаюся раз нядзелькай, расістай раніцай, з лесу з кубкам ягад, выходжу з парку на Свярковую. Ля варот Дома апекі ходзіць бабулька, выглядае кагосьці. Спачатку мінаю яе, але потым вяртаюся.

— Бабка, можа хочаце ягадак?

Бабка бянтэжыцца, пазглядае на мяне спалохана.

— Я... У мяне...

— Ды не за грошы. Наце, паешце. У лес вам далёка хадзіць, ды і цяжка...

Бабулька ўжо пару нядзелек так выглядае свайго сына з Варшавы. Абяцаў наведаць сваю старэнькую маці, машына ў яго хуткая, ано сесці, і ўжо ў Беластоку. Сама яму тую машыну памагала купіць, а і апошні раз, на рамонт, са свайго вузельчыка высыпала апошнія грошыкі...

Гутарыць са мною бабулька, трымае ягады ў трасучайся руцэ і ўсё паглядае на залітую сонцам вуліцу Вейскую, па якой з горкі безупынна збягаюць бліскучыя машыны.

*

Забег да мяне швагер:

— Нейкая жанчына зайшла да нас, ведае маю жонку, ды не магу з ёю дагаварыцца. Знерваваная, а жонкі няма... Не ведаю, што рабіць, хадзі хутчэй...

На крэсле ў хаце Рамана прысела худая, маладая яшчэ жанчына, вельмі знішчаная, апранутая чыста, але быццам без густу, абы-як. Пры нагах паставіла напханыя палатняныя сумкі.

Гаварыла няскладна, хутка. Здавалася мне, што яна мяне ведае — але я не магла ўспомніць, дзе я яе бачыла. Швагер перапалохана паглядаў на яе, і я выйшла з жанчынай на вуліцу.

Старалася я не задаваць пытанняў. Жанчына хацела трапіць у Дом малога дзіцяці. Яна тут ужо раз была, але не памятае, дзе ён...

Ёй 27 год. У яе трое дзяцей. Чацвертае „ў дарозе“ памерла. Татка прыхлабушчыў. Так, муж. Муж-не муж. Пакахала яго, сем год без шлюбу жылі. Малодшы за яе, радзіўся ў 1959 годзе, прыгожы, кучаравы. Палюбіла, пакахала. З яе дзіцём прыняў у хату, і яму яшчэ двое нарадзіла. Ну і біў, і кляў, з хаты выганяў. Чаму шлюбу не бралі? Не адказвае мне на мае рэдкія пытанні жанчына, быццам і не слухала, заглыбленая ў свае думкі, у сваё гора. Твар, скажам, Мар'і малады яшчэ, дзявочыя, далікатныя рысы, ясныя валасы,

там. Пачалі ў пятнаццаць асоб у Гарадку і кожны дзень усё прыбывала ўдзельнікаў. Супольныя падарожжы, вогнішчы, спяванне вельмі наблізілі людзей. Укараніліся даўнія сяброўствы, узніклі новыя знаёмствы, умацавалася салідарнасць групы. І так прайшло пяць дзён, поўных уражанняў. Цудоўныя краявіды, на якія няма часу глядзець штодзень, помнікі культуры, існавання якіх не ўсведамляем. памяткі старажытнасці, пра якія не ведаем. Але бачылі мы і другое: паміраючыя вёскі, дзе не ўбачыш ніводнага маладога чалавека, страшная дэмаралізацыя, выкліканая хуткімі і неспадзяванымі зменамі, імкненне да спажывецкага ідэалу жыцця, паланізацыю, якая сістэматычна штогод ахапляе ўсё больш і больш нашых людзей.

Сустракаліся мы з рознымі людзьмі і з розным прыёмам Але пераважна атрымоўвалі за нашае добрае слова добрае слова, за добразычлівасць плацілі нам людзі добразычлівасцю Усюды адчувалася, што мы сярод сваіх.

У Белавежу, дзе адбылося заканчэнне рэйду, прыйшло звыш 30 асоб. Гэта былі людзі, свядомыя свайго паходжання і пераканаыя ў слушнасці таго, што робяць. Дзякую ім усім і развітваюся да сустрэчы праз год на „Бацькаўшчыне".

**В. Сельвясюк**

Рэйд „Бацькаўшчына" не атрымаў ніякай фінансавай дапамогі і мог адбыцца толькі дзякуючы самаахвярнасці і добразычлівасці многіх людзей. Карыстаючыся магчымасцю хочам падзякаваць моладзі з Гарадка, а асабліва Яўгену Пятэльскаму за гасціну, святарам гарадоцкай царквы і музыцы Юрку, айцу Барысу Багдановічу і гуртку праваслаўнай моладзі ў Заблудаве за гасціну, Юрку Плясковічу і яго бацькам за начлег у Нарве. Сцяпану Базылюку за дапамогу ў арганізацыі рэйду і прыём у Кленіках, айцу Высоцкаму з Кленік, Міхасю Байко і Толіку Адзіевічу за гасціну ў Белавежы. Дзякуем за даклады Антону Мірановічу і Васілю Сакоўскаму. Дзякуем таксама ўсім тым хто вітаў нас добрым словам, даваў дапамогу, гасціну, а прозвішчаў усіх пералічыць немагчыма

**Удзельнікі рэйду „Бацькаўшчына"**

# ПРА ВЯЛІКАЕ СВЯТА

Думаю, што не адзін хацеў бы напісаць пра вялікае і багатае свята, якое перажылі ўдзельнікі І сяброўскага з'езда выпускнікоў Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы.

Я асабіста пішу таму, каб на старонках „Нівы" выказаць глыбокую ўдзячнасць усім арганізатарам за іх працу і самаахвярнасць. Мучыць мяне тое, што не адважылася там, на Белавежскай паляне пры кастры, дзе прайшлі апошнія гадзіны нашай сустрэчы, выступіць і галасна, з глыбіні сэрца падзякаваць усім, хто арганізаваў гэтае свята. Думаю, што мая баязлівасць вынікала з таго, што непакоілася я, каб падзяка не выйшла надта бледнай. Цяжка было знайсці словы, каб акрэсліць веліч укладзенай працы. Ніякія грошы, ні матэрыяльная маёмасць не заменіць таго душэўнага багацця і шчасця, якое мы перажылі. І таму шчырае дзякуй!

Праўду кажучы, я крыху баялася сустрэчы з сяброўкамі і сябрамі пасля 20-гадовага перапынку. Баялася, каб не перажыць паражэння ўцякаючага часу. Аднак, хоць гэты доўгі перыяд пакінуў след і крышку перашкодзіў у распазнанні даўніх падлеткаў, то аказалася ўсё не так кепска. Сустрэча была надзвычай прыемнай! Ліліся словы, як бурлівы вадапад. Аб усім хацелася адразу даведацца. Усё пазнаць, падзяліцца ўражаннямі Урэшце можна было запісаць назвы тых далёкіх мясцовасцяў, куды параскідаў нас лёс, узяць адрасы сяброў. Стараліся гэта зрабіць усе адразу, ў першыя хвіліны сустрэчы, як бы баючыся, што хвіліна знікне і зноў доўга не будзем бачыцца А хвіліны гэтыя даказалі, як мы з сабой зжытыя, як трывалай аказалася наша сувязь, як наша школа змагла нас з'яднаць. Нарэшце можна было, як калісьці, пагаварыць, пацешыцца.

На жаль, гаворка была іншай, „чужой", не такой, як у школьныя гады. Цяпер толькі з адной сяброўкай з класа мне давялося гаварыць па-свойму. А дваццаць год таму назад мы ўсе гаварылі толькі па-нашаму. па-беларуску. Так што апрача прыемных перажыванняў з сустрэчы, прыйшла мне ў галаву прыкрая рэфлексія: не ўмеем мы цаніць свайго найбольшага багацця — нашай беларускай мовы, мовы нашых бацькоў, прадзедаў, нашага народа. І праўду сказаў адзін вельмі разумны беларус: „Урэдны мы для сябе народ".

Хуценька ўцякалі першыя хвіліны. Яшчэ трэба было прывітацца з нашымі настаўнікамі. Многія з іх нас памяталі, прыпаміналі нават эпізоды з даўніх школьных год.

Пасля адбыўся чароўны баль, на якім ігралі і спявалі выпускнікі белліцэя ў Гайнаўцы. Малайчыны! Паказалі сябе вельмі добра, умелі весяліць людзей. І гэты баль яшчэ раз даказаў, як трывалая наша дружба, як патрэбны такія сустрэчы, як трэба разам гуляць, гаварыць, глядзець на сябе. Проста не хацелася расставацца.

Пасля ліцэя многім давялося закончыць яшчэ іншыя ўстановы, але думаю, што з'ездаў у тых школах ніхто з нас так не перажываў бы. Наш з'езд у Гайнаўцы быў спецыфічны, н а й в а ж н е й ш ы, бо быў гэта з'езд наш, беларускі. Думаю, што крануў ён сэрца не адной асобе, якая адраклася роднага. Цяпер зноў кожны пачуў сваю мову, песню, музыку.

Сустрэліся беларусы, якіх лёс закінуў у розныя куткі Польшчы — Катавіцы, Улацлавак, Гданьск, Гдыню і г.д. Хаця прайшло многа гадоў, мы, сустрэўшыся зноў, адчулі сябе вельмі маладымі. Я, калі крыху больш прыглядзелася субяседнікам, аж здзівілася сама сабе, чаму спачатку мне было цяжкавата пазнаць знаёмых. Гэта ж вось тая самая 18-гадовая Валя, якая таксама, як тады, жэстыкулюе правай рукой і выводзіць сваю філасофію. Тая ж вясёлая Ірка, а побач скромная і ціхая Ліда. А Віця як заўсёды — галасун, а Валодзя крышку „хвалько". І хоць назбіралася розных званняў — палкоўнік, магістр, інжынер і т.п., усе асталіся такія ж самыя. Дзяўчаты і хлопцы, браты і сёстры адной нашай беларускай сям'і.

**Анна Іванюк**

распушчаныя па плячах, рукі ў рубцах, ногі пабітыя...

— Што ж, біў... — кажа, — дурнаватая я стала. Ад такога біцця кожны прыдурэе. Нарадзіла дзяцей, а цяпер ідзі вон. Каб была ідыёткай, дзеці былі б таксама недарэчныя. А цяпер знайшоў сабе якуюсь удаву ці разводку, бясплодную, і на пуста сабе дае...

Так набіў, што ў шпіталь палажылі. А калі мяне не было, дзяцей па цэлай Польшчы паразвозілі, па дзетдомах. Кожнае паасобна. Аня ў Беластоку. Я выйшла са шпіталя, і ўжо не маці. Сведкі знайшліся, што я вар'ятка, дзецьмі займацца не магу. Ён таксама іх не хоча, але даць іх мне не дасць. Бабка і радня ўсё да іх заязджаюць, паказваюць, якія добрыя, але ўзяць таксама не хочуць. „Чужым аддамо, абы не ёй", — гавораць. Я цяпер у Гіжыцку зачапілася пры кухні — вяртацца ж не маю куды. Сем лет жыла, і нічога не дарабілася. Пайшла на брук. Дайце мне маіх дзетак, я прыют знайду: працаваць буду, адзену, выхаваю. Яны ж мае!

Заходзім у дзетдом. Санітарка пайшла па маленькую Анютку, а я па калідоры падалася ў глыб дома, адкуль чуліся дзіцячыя галаскі. Я заглянула ў пакойчык, дзе стаяла восем ложачкаў з паднятымі драбінкамі. На іх — сем хлопчыкаў гадоў каля трох. Яны мяне ўгледзелі, паўставалі, звярнуліся да мяне.

— О, пані! — крыкнуў адзін. Я загаварыла да іх, яны прыціхлі. Я падыходзіла да кожнага, а яны выцягвалі ручкі, туліліся, уздыхалі. Я пагладзіла па белай галоўцы аднаго, і ён як коцік прылашчыўся пад рукою. стараўся як найдаўжэй чуць пяшчоту. У вачах іншых паказаліся слёзы. Прыбегла апякунка.

— Ой, хлапчукі, ізноў пэўна выклікалі? Ну, выходзьце, калі ласка...

Калі мы былі ў дзвярах, дзеткі загаманілі.

Раней я прыходзіла сюды з сябрамі, якія вывучвалі педагогіку. Дзеці вельмі цешацца прыходу людзей. Чакаюць свае мамы. Просяць, каб іх забраць. Просяць — і словам, і жэстам. Дзеці, якіх рана пакінулі бацькі, рэдка, вельмі рэдка развіваюцца нармальна. З усіх дзяцей, якія ёсць цяпер у дзетдоме, трое-чацвёра развіваюцца сяктак. Яны назаўсёды будуць калекамі. Дзеці перш за ўсё мала гавораць. Некаторыя маўчаць зусім. Маленькі двухгадовы хлопчык абняў маю нагу, а пасля, калі я яго ўзяла на рукі, зашчаміўся так, што я не магла дыхаць. Ён глядзеў на мяне мёртвымі сінімі вочкамі і, калі я рабіла жэст, быццам хацела яго паставіць, ці дакраналася да іншага дзіцяці, ён дзіка, на адным уздыху, крычаў.

Анютка, дачка Мар'і, нармальная. Прыгожая, двухгадовая дзяўчынка. Яна гаворыць лепш, чым яе равеснікі. І таму

(Працяг на стар. 6)




# НУ Й МОЛАДЗЬ!

Гаварыце, што хочаце, але я не прамаўчу і выкажу свой погляд на сённяшнюю нашу моладзь.

Усе бачым, як моладзь, ходзячы па вуліцах, цалуецца, седзячы ў парках — цалуецца, у аўтобусах — цалуецца, у прыёмных — цалуецца.

Нядаўна сядзеў я ў чарзе да лекара. Супраць нас, абапёршыся аб поручні, стаяла маладая пара і заўзята слінілася (бо пацалункаў ёсць моц рознага тыпу). Стаялі да мяне бокам, то я мог не саромеючыся сачыць за імі. Зрэшты, мусіў сачыць, не меў куды вачэй падзець, а адыйсці было цяжка, бо меў звіхнутую нагу. Ну, дык сачыў за імі: мо пачырванеюць, або пабляднеюць? Мо спацяцца, або пачнуць дрыжаць... Нічога такога не прыкмеціў.

Божа ж ты мой, каб на гэтую тэму хацелі выказацца сённяшнія шасцідзесяцігодкі, думаю, было б што паслухаць. Гэта ж падумаць толькі, паўтары гадзіны цалавацца — і нічога! Учарашняя моладзь на вуліцах не практыкавала, але калі ўжо пацалавалася, дык тыя пацалункі яшчэ да сёння гоняць вецер па губах і „мурашкі" па спіне. Вось, гэта была моладзь!

**Васіль Петручук**

# ПА-СУЧАСНАМУ

Дзяўчына была анёлам. Вясёлая, шчабятлівая і ўсё цвярдзіла свайму каханаму, што з ім пойдзе на край свету.

— А ў ложак пойдзеш?

— А чаму ж бы не?!

— Дык пайшлі!

Праз нейкі час дзяўчына кажа хлопцу:

— Ведаеш, я зацяжарыла і не ведаю, што рабіць? Што ў школе настаўнікі скажуць? І табе напэўна бацькі не пазволяць жаніцца, ты таксама не закончыў свайго тэхнікума?

І сапраўды, што рабіць? Мітусіліся думкі.

І яна сказала:

— Ведаеш, у мяне ёсць ідэя.

— Якая? — узрадаваўся хлопец.

— Пазбыцца цяжарнасці. Толькі гэта будзе каштаваць, а ў мяне грашом не пахне. Пастарайся. Твае бацькі заможныя і напэўна на такую патрэбу адпусцяць дзесятак тышчонак.

Хлопец пачухаўся ў патыліцу і працадзіў праз зубы:

— Добра, паспрабую.

Да бацькоў па грошы звярнуцца не адважыўся, але дзед не адмовіў (вядома, хлопец падаў іншую прычыну).

Калі грошы апынуліся ў дзеўкі ў кішэні, яна заявіла:

— Ты больш за мной не лазь, як цяля за каровай. Такі мне непатрэбны, у мяне іншы ёсць, разумнейшы.

І тут яму ўсё стала ясна.

**В.С.**

(Працяг са стар. 5)

## АНЮЦІНЫ ВОЧКІ, ЗЯЗЮЛЬЧЫНЫ СЛЁЗКІ

сем'і, якія хочуць узяць дзіця з дзетдома, хочуць яе прыняць.

З прагулкі вярталіся з іншай дзяўчынкай. Уляй, мужчына з жанчынаю год пад сорак. Яны бяздзетныя, даволі багатыя. Могуць забяспечыць дастатняе жыццё дзяўчынцы. Бог не даў ім свайго дзіцяці, няхай дачкою будзе ім сірата.

Многа людзей прыходзіць у дзетдом. Хочуць узяць сіротку, а круглых сірат тут мала. Многа кінутых дзяцей. Ды і не зусім кінутых. Маці-не маці не вельмі хоча зусім зракацца свайго дзіцяці — і тады яго нельга аддаць у другую сям'ю. А маці-не маці, бывае, і не загляне да малога. Дзіця хварэе сірочай хваробай: хістаецца ўзад і ўперад, не развіваецца інтэлектуальна і фізічна. Яно ніколі не будзе поўнаспраўным чалавекам. Людзі, якія прыходзяць „узяць" сабе „сіротку", не хочуць браць дзіцяці „ненармальнага", выбіраюць, перабіраюць, як у краме! Можна дзіця, калі не ўсынавіць, то прыняць у сям'ю пад яго ўласным прозвішчам. Людзі баяцца: невядома, што з дзіцяці вырасце, бо вядома, якія маці кідаюць дзяцей. І п'яніцы бываюць, і прастытуткі, і зладзейкі. Людзі баяцца, каб пасля гэтае кляймо не адазвалася ў іх прыёмнай дачцы ці сыне. І таму гэтая сям'я, якая выбрала сабе Анютку ці Улю, спачатку разгледзела ўсё. Дзяўчынкі будуць мець поўную сям'ю, парадак, спакой, любоў. А што астаецца Мар'і?

*

З расказаў пані Аліны Абрэмбоўскай:

— У дзень жанчын наша дэлегацыя зайшла ў Дом апекі. Прынеслі мы гасцінцы, пасядзелі, пагаварылі. Пытаемся: а хто тут найстарэйшы? Кажуць, што дзве жанчыны, ужо каля сотні гадоў. А ў нас астаўся падарунак толькі для адной: кветкі і шакаладкі. Думаем: адной дамо тое, а другой — гэтае. А тая бабулька, што шакаладкі атрымала, кажа амаль у слязах:

— Не хачу я шакаладак! Кветкі, кветкі мне дайце!

**Міра Лукша**

## ПАРНАСІК
### ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

**ВЯСНА**

Як не знайсці,
Прыходзіць гора ў сэрца,
Цяжка ўздыхнеш,
Заплачаш —
І горка стане;
Душа баліць.
Мінае доўгі час — а ты сама.
Прыйшла вясна — вясёлая,
І зноў тут з намі,
Але я адна,
Я не магу весяліцца.
Як цяжка.
Душа баліць
І сэрца плача.
Вясна — ты прынясі мне...
месяц май,
Бо можа ён
Змяніць маё жыццё.

**Аніта Ноэль**



(Працяг са стар. 1)

# СЛАВА КОЖЫНА

Гэта ён, Уладзімір Купрыяновіч, галоўным чынам дабіўся таго, што ў Кожыне ўстаноўлены памятны камень у гонар савецкіх партызан з атрада імя Фелікса Дзяржынскага. Гэты скромны помнік увекавечвае імёны: Рыгора Куўшынава, Валянціна Бандарэнка, Васіля Арлова, Уладзіміра (прозвішча не ўстаноўлена), Аляксандра Жураўлёва. Усе яны былі грамадзянамі Савецкага Саюза, „васточнікамі", як гаварылася ў нас у час акупацыі. Разам з імі змагаліся і загінулі партызаны з тутэйшых беларускіх вёсак: Іван Карчэўскі з Кожына, Андрэй Каліноўскі з Гукавіч і Васіль Грыгарук з вёскі Зубава.

Усе гэтыя прозвішчы памешчаны на памятнай табліцы замацаванай да каменя-помніка, які ў нядзелю 21 ліпеня 1985 года, напярэдадні свята Адраджэння Польшчы, быў урачыста адкрыты ў Кожыне. Стаіць ён над рэчкай Локніцай, на ўскраіне вёскі. Гэта аграмадны палявы валун, падняты на бетонны пастамент, з памятнай мармуровай плітой, на якой высечаны імёны загінуўшых партызан, будзе ўжо навечна сведчыць аб слаўным мінулым гэтай вёскі.

*

У Кожыне з гэтай нагоды адбыўся шматлікі мітынг, на які з'ехалася вельмі многа народу з суседніх вёсак. Былі, вядома, прадстаўнікі гміннай і ваяводскай улады, — на чале з сакратаром Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку Мечыславам Дарожкам. Быў таксама прысутны доктар Ян Зенюк, намеснік старшыні Прэзідыума ГП БГКТ, намеснік старшыні Ваяводскай рады ПРОН.

Сярод сабраўшайся публікі вылучалася група нямецкіх дзяўчат і юнакоў. Гэта вучні і студэнты з ГДР, члены маладзёжнай арганізацыі „Свабодная нямецкая моладзь", якія частку сваіх канікулаў працавіта праводзілі ў Бельску. Сярод шматлікіх вянкоў і букетаў кветак, ускладзеных гэтага дня да кожынскага помніка, знайшоўся таксама вянок і ад гэтых маладых немцаў, грамадзян Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі, дзяржавы, якая магла паявіцца на палітычнай карце Еўропы толькі таму, што быў разгромлены фашызм, што і тут, у Кожыне, самаахвярна людзі змагаліся з нямецкім гітлерызмам. Я з асаблівым хваляваннем глядзеў на гэтых маладых немцаў, якія з вянком у руках ішлі да помніка рускім і беларускім партызанам-антыфашыстам.

*

Пра партызан з групы Куўшынава я пастараюся болей падрабязна расказаць пры іншай нагодзе. Яны заслужылі на гэта. Адзін з іх, Сяргей Грыгарук, родам з Гукавіч, жыве зазаз у Гайнаўцы. Андрэй Карчэўскі, брат загінуўшага Яна Карчэў-

Кожына ўзнагародзілі Залатой адзнакай „Заслужаны для Беласточчыны" Урачыстасць адбылася ля новапабудаванай пажарнай рамізы.

Ветэраны, сябры партызан з Кожына. Трэці справа — Сяргей Грыгарук. За ім стаіць госць з Брэста, таксама былы партызан Андрэй Карчэўскі, брат загінуўшага партызана Яна Карчэўскага.

## ВАЕННЫЯ СЦЕЖКІ

# ФРАНТАВЫ ДЗЁННІК

19.XI.44 г. з Бабруйскага запаснога палка вязуць нас на Захад. Спыніліся ў Баранавічах. На станцыі — эшалоны перасяленцаў з той часткі Беласточчыны, якая адыходзіць да Польшчы. Беларусы перасяляюцца на Усход. Кожнай сям'і выдалі цэлы пяцідзесяцітонавы вагон, і мужыкі заладавалі іх грунтоўна.

Мае бацькі перасяліліся, напэўна, не так. Гаспадарку немцы зліквідавалі. Усё нашае багацце сусед недзе перавёз у Ваўкавыск на адной фурманцы. Ад Страшава да яго — 50 кіламетраў. Мая вёска ад граніцы ўсяго кіламетраў з шэсць.

Крыўдна. Няўжо ўсё так і застанецца?

20.XI.44 г. Цэлы дзень стаім у Брэсце. Шчапаем сухія шпалы і ў кацялках гатуем гарохавы канцэнтрат. Цяпло. Свеціць сонца. Пра нямецкія самалёты ўсе і забыліся.

І тут эшалоны з беларусамі-перасяленцамі. Гэтыя з украінскім акцэнтам. Дзяўчаты з салдатамі какетнічаюць, дурэюць, вішчаць...

21.XI.44 г. Цэнтральная Польшча. Лес пад Мінскам Мазавецкім. Са станцыі прыбылі пяхатою. Дзе спаць? Гэта не ў партызанах, дзе кожны быў сабе галава, — дысцыпліна! Спалі пад голым небам на снезе. Я — з Яфімам Паасам у абдымку. Абое перамерзлі да шпіку касцей, а мо і больш.

Раніцой з'явіліся вярбоўшчыкі. Каго ўзялі ў разведку, каго — у сувязь. Яфіма — у мінамётную роту.

Камандзір разведкі нашай дывізіі, Герой Савецкага Саюза капітан Бойчанка, выбраў мяне ў свой узвод — валодаю нямецкай мовай. Але Бойчанка чамусьці перадумаў. Старшына-артылерыст са смешным прозвішчам — Задняявуліца — павёў мяне ў палкавую батарэю.

29.XI.44 г. Я ўжо каторы дзень — наводчык 76м/м гарматы.

15.XII.44 г. З раніцы да вечара прападаем на вучэннях. Сумны занятак. Капай „агнявыя", маскіруй „палкавушку" (так называецца мая гармата), хавай снарады. Толькі акуратна ўсё зробіш, акопчыкі заліжаш, замаскіруеш і — „Падаць перадкі! Гармату на іншую пазіцыю, бяго-ом!" Коні „палкавушку" адным дыхам прыпруць у другое месца, а там — усё спачатку.

Хутчэй бы на фронт. Адзіная забава — фокусы ў час начной пераклічкі ды апавяданні бывалых батарэйцаў пра жудасныя бai ў Латвіі, адкуль прыбыў наш полк (у батарэі засталося адно восем чалавек з сарака). Сёння на пераклічцы быў мой чарод прыдумаць фокус.

І я прыдумаў.

Пастроілі батарэйцаў. Пасля праверкі, інструктажу старшыня спытаўся:

„Пытанні ёсць?"

„Ё-осць!" — крычу.

„Што ў вас, баец, слухаю!"

„Таварыш старшына, чаму ваша прозвішча — Задняявуліца, а не — пярэдняя?"

„Адставіць! — не павёў і бры-




## СЛЕД БЕЛАГА ЧАЛАВЕКА

Шаноўны чытач, мабыць, задумаецца, адкуль такі дзіўны загаловак. На самай справе, загаловак загадкавы, але, здаецца, ён даволі інтрыгуючы як для артыкула пра трыпутнік вялікі (лацінская назва — plantago major, babka zwyczajna — папольску, подорожник большой — па-руску, на Беласточчыне гэтую расліну таксама завуць „падарожнік" або „бабка"). Назвы расліны, асабліва народныя назвы, засноўваюцца на падгледжаным і заўсёды адлюстроўваюць якую-небудзь уласцівасць тае расліны. Тое самае і з назвай „трыпутнік", якая паходзіць ад старажытнага слова „пуць" — дарога, шлях, гісцінец.

Трыпутнік належыць да надзвычай плённага віду раслін. Адна-адзіная раслінка за год дае ад васьмі да шасцідзесяці тысяч зярнятак насення! Гэтыя зярняткі пад уздзеяннем вільгаці робяцца ліпкімі і падчас асенняй макраты прычэпліваюцца да ног падарожных або да колаў транспарту. Такім чынам вандруюць з месца на месца і таму трыпутнік часцей за ўсё можна сустрэць пры дарозе. У Амерыцы да часу прыбыцця туды белага чалавека трыпутнік не рос. Паявіўся ён там разам з еўрапейцамі і, вядома, толькі пры дарогах. Мясцовыя індзейцы хутка заўважылі гэта і трыпутнік назвалі па-свойму: „след белага чалавека".

Трыпутнік вялікі — найстарэйшая лекавая расліна. Запісы пра яго знаходзяцца ў кнігахлячэбніках усіх старажытных цывілізацый. У Кітаі яго ведалі ўжо тры тысячы год таму назад. Шырока прымяняўся трыпутнік у тыбецкай, індыйскай, старажытнагрэчаскай і рымскай медыцыне. У ім лячэбныя ўласцівасці маюць перш за ўсё лісце і насенне. З даўніх часоў трыпутнікам лечаць кашаль і раны, якія цяжка загойваюцца

Пра тое, што лісце трыпутніка, старанна прамытыя кіпячонай вадою, прыкладаюць на раны, апёкі і ўкусы насякомых, я нават і пісаць не павінен, бо аб гэтым ведае амаль кожны. Аднак трыпутнік карысны не толькі ад укусаў насякомых.

Памёршы некалькі тыдняў таму назад З. Навак, — настаўнік батанікі ў лясным тэхнікуме ў Белавежы (пра гэтага выдатнага педагога і прыродазнаўцу мы ўжо згадвалі ў „Таямніцах") — калісьці так вучыў маладых леснікоў:

— Калі ў лесе цябе ўкусіць змяя, дык памятай: першым ратункам будзе частае прыкладванне штораз то свежых, крыху змятых лісцяў трыпутніка. Калі гэтак не будзеш рабіць, то і да лекара можаш не дайсці.

Кітайцы вывар з насення трыпутніка прымяняюць на кампрэсы да хворых вачэй, нарыхтоўваючы яго ў прапорцыі: 3-4 грамы насення на шклянку (200 г) вады. Праф. Аляксандр Ажароўскі піша, што напаранне з лісця трыпутніка прымяняецца ад катару страўніка або кішок, пры запаленчых станах слізістых абалонак страўнікавага тракту, дапамножа пры язве страўніка або дванаццаціперснай кішкі, а таксама пры язве кішок. Напаранне нарыхтоўваюць у прапорцыі: 1—1,5 лыжкі лісця на 2 шклянкі вады; піць па паўшклянкі 2—4 разы ў дзень. Гэтак жа нарыхтаванае напаранне прымяняюць знешне ў кампрэсах на заражаныя раны, або якія цяжка загойваюцца, запаленчыя станы скуры, болькі, а таксама для паласкання горла пры бранхіце і запаленчых станах поласці рота ў дзяцей, у жанчын для прапалоскавання похвы пры запаленчых станах. Такое напаранне прымяняюць таксама для прамывання вачэй пры запаленчых станах кан'юнкта (спаюўкі), але да гэтага яго трэба крыху развясці кіпячонай вадою.

Макушынскі дае рэцэпт на хрыпату і ўдушлівы кашаль: адну лыжку высушанага лісця трыпутніку і столькі ж сушанага зелля бядрынца каменяломкавага (лацінская назва — pimpinella saxifraga, biedrzeniec — па-польску, бедренец камененоломковый — па-руску) заліць шклянкай кіпетню, прысаладзіць мёдам і піць 2-3 разы ў дзень па сталовай лыжцы.



У Літоўскай ССР трыпутнік прымяняюць пры рознага роду ўнутраных крывацячэннях, дзеля гэтага свежы сок з лісця трыпутніку (100 грам) мяшаюць з вінам (400 грам), прымаюць па лыжцы 3-4 разы ў дзень. У заходніх краінах з трыпутніку нарыхтоўваюць у вялікай колькасці зёлкавы сіроп (Sirupus plantaginis), які прымяняюць як адхарквальны сродак, галоўным чынам пры сухім кашлі, бронхіяльнай астме і катары страўніка.

**Б. Паскробка**

## ЯК КУМ КУМЕ...

Бядней наша мова... Людзі, якія жывуць штораз больш эканомна, губляюць прыгожыя родныя словы, замяняюць іх „міжнароднымі", выкідаюць назаўсёды са слоўніка. Гэта мы бачым асабліва ў слоўніку „сямейным". Доўга дапытвалася я, як называем маці мужа. „Ну, тэсцёва", — адказалі мне знаёмыя. Але цёшча — гэта маці жонкі, страшэнная, цёшча з валком у руцэ і вужом за пазухай. Так яе бачаць мужчыны, асабліва ў гумары...

Пераглянула я многа слоўнікаў, пакуль вышукала гэтыя „архаічныя" назвы сямейных адносін. Думаю, прыдасца нам, асабліва маладым, вярнуцца да прыгожага роднага слова.

**Брат** і **сястра**, вядома, гэта кожны з сыноў і дачок у адносінах да другіх дзяцей гэтых жа бацькоў. Жонка брата — гэта **братавая. Швагер** і **швагерка** гэта жончын брат, жончына сястра, або муж сястры ці швагеркі. Сястру мужа называем **залвіцай, залоўкай**, а брата мужа — **дзеверам.** Жонка аднаго брата ў адносінах да жонкі другога брата — гэта **ятроўка. Нявестка** — жонка сына, **зяць** — муж дачкі. **Брацёнік** — дваюрадны брат. **Сват** і **сваця** — гэта бацькі мужа ў адносінах да жончыных ці бацькі жонкі ў адносінах да мужавых бацькоў. **Кумы** — хросныя бацькі ў адносінах да бацькоў хросніка ў і да сябе. **Дзядзька** і **цётка** — гэта бацькаў або матчын брат, бацькаў або матчына сястра і цётчын муж ці жонка дзядзькі. **Жаніх** — гэта муж, які мае нявесту, ці будучы муж нявесты, а **нявеста** — дзяўчына, якая выходзіць замуж (маладая); дзяўчына, якая мае жаніха, будучая жонка; маладая дзяўчына, якая дасягнула шлюбнага ўзросту. **Сваякі** — гэта ўсе, хто знаходзіцца ў сваяцтве з людзьмі, якія маюць агульных продкаў, а таксама родныя не па крыві, а па шлюбу (адносіны паміж роднымі тых, хто ажаніўся)...

Давайце зробім так: няхай маці мужа будзе свякрухай (а ў вочы яшчэ лепей проста мамай), а кум куме кумам!

**Мяцёлка**

## Помнікі культуры

## НА ГАРЫ ГРАБАРЦЫ

Гара Грабарка — гэта праваслаўны санктуарый, што знаходзіцца непадалёку ракі Буг, паміж двумя гістарычнымі цэнтрамі — Мельнікам і Драгічынам. Пачаткі хрысціянства ўсходняга абраду на гэтай тэрыторыі, паводле пісаных крыніц, сягаюць XI стаг. У XIII ст. ікона Спаса з недалёкай царквы Багародзіцы ў Мельніку, праўдападобна, на св. Гары знайшла ахову ад татарскага нашэсця. Яшчэ ў XIX ст. на суседнім узвышшы былі сляды пабоішча з тых часоў.

Ёсць дакументы аб святыні на Гары, якую некалькі разоў рамантавалі прыхажане Сямяціцкага прыхода, паколькі ўвесь час Грабарка была філіяльнай царквой Сямяціцкай.

Пасля II сусветнай вайны ў 1947 г. быў на Гары адноўлены жаночы манастыр (адзіны ў



Польшчы), а пры ім адкрыл. прыход. У 1956 г. была пабудавана царква Іконы Б.М. Усіх Скарбяшчых Радасці, а пры ёй келлі для манахінь.

Ранейшыя скромныя будынкі замяніла новая мураваная будоўля, што вырасла тут у 1978-1980 г.г. У ёй адкрылі царкву Св. Варвары разам з трапезнай.

І цяпер так, як і даўней, кожны год на Спаса ды і ў іншыя святы (пав. старога календара) збіраюцца на Грабарцы вялікія масы праваслаўнага грамадства з усяе Польшчы. Кожны год расце колькасць крыжоў, якія прыносяць і ставяць тут паломнікі.

**(Р. С.)**

## Куток практычных ведаў

Часнок для баршчу раіцца расцерці з соллю і пакласці ў боршч разам са спецыямі.

*

Калі булён доўга награецца да таго як закіпіць, і калі моцна кіпіць у час варкі, то яго смак значна пагаршаецца; з прычыны гэтага пагаршаецца і смак супаў, прыгатаваных на такім булёне. Награвайце булён так, каб ён як мага хутчэй закіпеў пасля закладкі ў яго прадуктаў.

*

У час варкі булёну неабходна перыядычна здымаць пену і тлушч. Першы раз гэта робяць зараз жа пасля таго, як закіпіць булён.

*

Пры варцы гародніну трэба апусціць у вар.

*

У невялікага цёмна афарбаванага бурака мякаць больш мяккая, сакавітая і далікатная, чым у вялікага бурака са светлай афарбоўкай.

# ЗОРКА

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Павел Місько

## ТРАМБОН І ШУШКА

**Пачатак у папярэднім нумары**

Зацяўся Шушка — ні гуку. Але нядоўга ўсядзеў.

— Слухай, я ўторкну вудачкі, сам палезу з кашом. А ты паглядвай і на мае паплаўкі.

— Няма дурных, — адрэзаў Трамбон.

— Дык ты ж усё роўна будзеш сядзець!

Сядзець буду, а танцаваць не хачу і не буду.

— Тады хоць адну папільнуй, я тыя павыцягваю. Во гэтую... Я бліжэй да цябе закіну...

Трамбон прамаўчаў, толькі сцяў губы.

Шушка вуды павыцягваў, а лёсак не зматаў. Схапіў кош, ірвануўся з месца бягом. І раптам як залямантуе! Адна лёска трапіла паміж пальцаў правай нагі, прашмаргнулася, як травінка, а кручок упіўся ў нагу.

— У-у-у, і што сёння за дзень такі! — Шушка, хныкаючы ад болю, паспрабаваў дастаць кручок з нагі. Але нічога не атрымалася.

Трамбон падышоў да яго, прысеў на кукішкі.

— Ого! Вось залез, толькі хвосцік відаць. Рэзаць трэба... Каб лязо было, я ш-шаш — і гатова.

— Хірург знайшоўся!..

— Я перакушу лёску, зойдзеш дадому і так... А бацька дастане...

Трамбон нахіліўся, перакусіў.

— А як жа я з такою нагою ў ваду пале-езу? — ныў Шушка.

— Ніхто цябе не гоніць у ваду. Зараз дадому пойдзем.

— Ага, я сядзець буду, а ты, хітранькі, лавіць будзеш? Пайду хоць яблыкаў нарву. — Шушка падхапіў кош і, кульгаючы, пакраўся да антонаўкі. Азірнуўся, сказаў сіплым, зняможаным голасам: — Ты ж пра маю вудачку не забывай. З мае вудачкі — мае будуць!

Трамбон нічога не адказаў. Ён глядзеў не на паплаўкі, а на бялюткую чайку. І адкуль яна тут узялася? Трапеча крыламі, вісіць на адным месцы, а дзюбка да вады звернута. Рыбку высочвае... І раптам каменем плюхнула ў ваду, тут жа ўзлящела, трымаючы ў дзюбе маленькага карасіка.

Уздрыгнуў ад нечаканасці, калі пачуўся мужчынскі голас:

— Злазь, злазь, я табе кажу!

Пад яблыняю стаяў і пазіраў угору дзядзька Патап.

— Памагаеш мне яблыкі абіраць? От малайчына... Толькі чаго ж ты ўскарабкаўся на антонаўку? Гэтым яшчэ трэба пастаяць пару тыдняў... Патап гаварыў амаль лагодна, голасу не павышаў. — Злез? Не вытрэсвай з-за пазухі, рукамі вымем, а то паб'юцца... Вунь скрынкі пад яблынямі, бачыш! Занясеш туды і асцярожна выкладзеш. А вечарам я да бацькі прыйду. Трэба ж пахваліць цябе, няхай і ён ведае, які сын расце.

Трамбон хуценька змотваў вудачкі. Яму было сорамна і няёмка. Патап кідаў у яго бок позіркі, збіраўся нешта сказаць, І сказаў:

— А што? Ваш кот састарэў, мышэй не ловіць? Хочаш падкарміць яго драбязой? — і павярнуўся, пайшоў следам за Шушкам да скрынак.

Сябры сышліся за садам, на паплаўку. Шушка ішоў, наступаючы на правую пятку, нібы пакручваючыся на ёй. Твар яго крывіўся, як ад кіслай антонаўкі. Кош вісеў за спіной.

— Бяры свой сноп, — Трамбон сунуў яму ў рукі вудачкі.

Шушка ўзяў іх неахвотна.

— А рыба? Так і ляжыць мая на беразе?

— Вось... Цэлы кукан.

— Гэтулькі на маю вудачку налавілася?! — Шушка ажно кульгаць перастаў.

— На тваю, на тваю... — сказаў Трамбон і адвярнуўся, ляпляп — абабіў далоні ад лускі.

Гаварыць яму з сябрам не хацелася.



Хлопцы з Барысаўкі. Ромка Давідзюк піша прыгожыя вершы і ўжо друкаваўся ў „Зорцы". Януш Каролька ведае шмат беларускіх вершаў і ўдзельнічае амаль заўсёды ў дэкламатарскіх конкурсах. Фота Я. Чэрнякевіч.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

### ЗАБІЯКІ

Знайшлі пеўні
 зломак-грэбень.
А нашто ён ім патрэбен?
Як схапіліся сварыцца,
Потым біцца, калаціцца.

Вырваў лысаму руды
Палавіну барады.

Ледзьве я разбараніла,
Памірыцца ўгаварыла.

Рады пеўні разысціся,
Ды не могуць адсапсціся.

Раптам чую голас лысага:
— Ты адкуль, дачка?
— З Барысава.
— А чыя ты?
— Дзянісава.
— Як завуць цябе?
— Ганус̌я.
— А што робіш?
— З вас смяюся.

### ДОЖДЖЫК З СОНЦАМ

Дождждык
З сонцам папалам
Па лісці
Залапатаў.
Я ісці
Сабраўся ў цырк,
А ён з хмаркі —
Цырк, цырк, цырк.

Пад ліпкаю пачакаю,
Не пайду па даждж.

Васіль Вітка



Анэтка Якімюк нядаўна скончыла падставовую школу на Юдзянцы. Была адной з найлепшых спартсменак школы. Бегала на 1000 метраў і мела найлепшыя вынікі ў раёне Гайнаўкі. Фота Я. Чэрнякевіч.

Юрый Магуцін

### ДЗЯДУЛЯ І ДРЭЎЦА

Гэтаму дрэўцу не пашанцавала ад самага пачатку. Спярша яго параніла бартом грузавіка, а потым яблыньку надламалі хлапчукі. Цягнуліся па яблыкі і моцна яе прыгіналі да зямлі. Яблынька не вытрымала і зламалася. Зраслася яна няхутка і крывабока.

Так і стаяла б яна ўсё жыццё крывою ды гарбатаю, каб не прыйшоў да яе добры чалавек. Прыйшоў дзядуля, падняў ствол на падпоркі, зямлю вакол здзічэўшай яблынькі ўскапаў, галінкі падрэзаў. Прыняла яблынька дапамогу, пачала расправляць зацёкшую спіну. Хлапчукі здзівіліся:

— Ахвота табе, дзядуля, калацца каля крывабокай яблынькі! Лепш зрэзаць яе, а новую пасадзіць.

— Шкада, вельмі ж смачныя яблыкі!

Прыходзіў дзядуля да яблынькі: то ствол пабеліць, то вадой напоіць. Ажыла яблынька, быццам зноў нарадзілася. Зацвіла буйным квеццем, пахарашэла. Зашумелі вакол яе пчолкі. А на восень падарыла яна людзям румяныя і смачныя яблыкі.

А яшчэ праз год дрэўца ўжо і пазнаць нельга было: выпрасталася, весела галінкі раскінула. І дало такі ўраджай, быццам дзякавала чалавеку за дапамогу.

Як гэта бывае падобна з людзьмі! Падтрымай чалавека ў патрэбе, памажы ў бядзе, і раскрыецца яго душа і адгукнецца ўдзячна дабром.

# РОБІМ САМІ ЦАЦКІ




**КАПЮШОН**

Яшчэ навучымся рабіць адзін від шапкі. На гэты раз капюшон (каптур).

Бярэм вялікага фармату газетны ліст. Складваем яго напалавіну. Да сярэдняй лініі складваем вуглы (з неразрэзанага боку) паводле мал. 1. Ніжнія палоскі складваем на супрацьлеглыя бакі ўверх (мал. 2). Атрыманы трохвугольнік разварочваем ад сярэдзіны так, каб атрымаць падвойны квадрат (мал. 3). Ніжнія вуглы складваем на супрацьлеглыя бакі ўверх укосна паводле мал. 4. Зноў разварочваем ад сярэдзіны да папяровага фармату (мал. 5). Цяпер пярэдні ніжні вугал складваем уверх (мал. 6). Засталося ад сярэдзіны развярнуць да формы капюшона (мал. 7).

На заканчэнне цыкла „Шапкі з газеты" маю да ўсіх, хто займаўся гэтай гульнёю, просьбу. Калі вы хадзілі на канікулах у шапках, зробленых уласнаручна, а можа ў іх і фатаграфаваліся, прышліце ў „Зорку" свае фотаздымкі ў шапках або напішыце аб гэтым. Напішыце абавязкова, як вы правялі летнія канікулы.

**Ваня Майстар**

# Пазнаёмімся

СССР, 344059, г. Ростов-на-Дону, І-ая Киргизская, 118/6. Шульге Галине. 6 клас.

* * *

СССР, 346503, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Парковая, 13, кв. 61. Уколовой Светлане. 7 клас.

* * *

СССР, 344059, г. Ростов-на-Дону, пос. Чкалова, ул. Сахалинская, 59. Наташа Емельяненко. 12 год.

* * *

СССР, 344065, г. Ростов-на-Дону, ул. Киргизская, 9, кв. 26. Нечаевой Лене. 4 кл. Хоча пасябраваць з хлопчыкам.

* * *

СССР, 344059, г. Ростов-на-Дону, пос. Чкалова, ул. Касторная, 1/7. Радченко Люде. 3 клас.

* * *

СССР, 344059, г. Ростов-на-Дону, пос. Чкалова, пер. Мезенский, 1/152. Минаевой Ире. 7 клас.

* * *

СССР, 346506, Ростовская обл., г. Шахты, пр. Ленинского Комсомола, 44/1. Жидких Света. 4 клас.

* * *

СССР, 346527, Ростовская обл., г. Шахты-27, ул. Строителей, 36, кв. 72. Бубновой Елене. 7 клас.

* * *

СССР, 349340, Ворошиловградская обл., г. Краснодон, ул. Терешковой, 89. Юрченко Вере. 4 клас.

* * *

СССР, 344056, г. Ростов-на-Дону, пер. Беломорский, 20г, кв. 79. Крива Анне. 4 клас.

* * *

СССР, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Темерницкого, 38/12. Манданюк Оле. 7 клас.

* * *

СССР, 344044, г. Ростов-на-Дону, ул. Ц. Куникова, 29. Климановой Оксане. 7 клас.

* * *

СССР, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Хмельницкого, 9. Шеремет Лене. 5 клас.

* * *

СССР, 346562, Ростовская обл., Усть-Донецкий район, станица Мелиховская, пансионат. Иванченко Оле, 13 год.

* * *

СССР, 344000, Артёмовск, Донецкой обл., ул. Полевая, 45/38. Кекало Ире. 6 клас.

* * *

СССР, 346500, Ростовская обл., г. Шахты, пер. Мельничный, 1. Макарову Андрею. 4 клас.

* * *

СССР, 343400, г. Артёмовск, Донецкой обл., ул. 1-ая Железнодорожная, 43/70. Бородаченко Наташе. 12 год.

# Вясёлы куточак

* * *

На спартыўнай пляцоўцы хаос. Ігракі валяюцца на зямлі і то адзін на другім, на кучу:

— Што робіць суддзя, чаму ён не спыніць гульню? Што тут такое дзеецца? — нервуецца адзін з балельшчыкаў.

— Не можа! Ён ляжыць на самым нізе, — тлумачыць яму сусед.

* * *

На школьным двары б'юцца хлопцы. Да іх падыходзіць настаўнік:

— За тое, што пабіліся, — кажа ён, — кожны з вас напіша сто разоў сваё прозвішча.

— Гэта несправядліва, — адзываецца адзін з хлопцаў. — Яго прозвішча Дыль, а маё — Багатахвальскі.

* * *

Юрка атрымаў прыпісаныя яму лекарам акуляры. Вечарам, ідучы спаць, ён нацягнуў іх на нос.

— Навошта табе ў ложку акуляры? — дзівіцца маці.

— А можа мне нешта цікавае прысніцца, каб я мог тое добра бачыць.



Лета — гэта пара, калі дзеці да позняга вечара гуляюць на двары. Яны так заняты гульнямі, што не раз і дабраночку празяваюць і аб усім свеце забываюць. Гуляюць хто ў бэрка, хто ў хованкі, а наймяншыя пайбольш любяць ляпіць пясковыя бабкі.

Эмільцы Мартынюк 9 чэрвеня мінула пяць год. Яна з пяску робіць торт, падобны да сапраўднага, да такога, які ёй зрабіла мама на дзень нараджэння.

**ЖЭНЯ МАРТЫНЮК**

# Пішуць школьнікі

**ПІСЬМЫ З САВЕЦКАГА САЮЗА**

**Добры дзень, дарагія сябры!**

*Піша вам савецкі школьнік Андрэй Кулагін. Я вельмі хачу перапісвацца з хлопчыкамі і дзяўчаткамі з вашай краіны.*

*Я жыву ў старажытным рускім горадзе Туле. Горад, у якім я жыву, на 1 год старэйшы за сталіцу нашай Радзімы Маскву. У Туле быў пабудаваны першы зброевы завод. Таксама ў Туле выпускаюцца шырока вядомыя як у нас, так і за граніцай тульскія пернікі і самавары. У цэнтры майго прыгожага горада стаіць старадаўні крэмль. Яго відаць з акна майго дома. Недалёка ад нашага дома стаіць школа, у якой я вучуся. Мне 14 год.*

*З прывітаннем*

**Андрэй**

*Мой адрас: СССР, 300041, г. Тула, ул. Советская, д. 18„А", кв. 37. Кулагин Андрей.*

* * *

**Дарагія сябры!**

*Пішу я да вас ужо пяты раз. Некалькі сяброў напісала ўжо да мяне пісьмы, але хутка перасталі перапісвацца. Чаму? Я ж хачу з вамі перапісвацца не для таго, каб атрымліваць ад вас нейкую прыгожую паштоўку ці што-небудзь падобнае! Я хачу як найбольш даведацца аб Польшчы, аб яе людзях. Напішыце, калі ласка, да мяне. Я хачу перапісвацца з вамі. Вучуся ў сёмым класе. Мой адрас: БССР, 211724, Віцебская вобл., Докшыцкі раён, п/а Гняздзілава. Маркевіч Людзе.*

* * *

**Паважаная газета „Зорка"!**

*Я пішу да Цябе таму, што хачу мець сяброў з Польшчы. Я ўжо пісала ў вашу газету адзін раз, многія дзеці адгукнуліся на маё пісьмо, але цяпер ужо ніхто не піша. Вельмі шкадую. „Зорка", падай зноў мой адрас. Вось ён: СССР, г. Батайск, Ростовской обл., ул. Красноармейская, 98. Свирина Света. 15 год.*

# АДГАДАНКА



**Калі хочаш даведацца, што схавана на гэтым малюнку, расфарбуй палі, абазначаныя 1 — на жоўта, 2 — аранжавым, 3 — чырвоным, 4 — фіялетавым, 5 — сінім, 6 — зялёным, 7 — карычневым. Што выйшла?**



Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

З чаго смяюцца суседзі

# ПЕРАВАГА

Па шырокай рэчцы ціха слізгаціць катэр з яркім надпісам „Выратавальны“. У катэры ля руля каржакаваты загарэлы хлопец. Ён падплывае да невялікай лодачкі, у якой сядзіць мужчына з вудачкай у адной руцэ і шашлыком у другой.

— А, Вася, прывітанне, вось дык сустрэча! — шырока ўсміхаецца выратавальнік.

— Здароў, Міша.

— Ну, дзе працуеш?

— У НДІ.

— Паслухай, навошта табе мазгі сушыць, давай на выратавальную станцыю. У мяне тут паветра, прырода, маторная лодачка, лазенька, рыбка, шашлыкі — не жыццё, а маліна!

— І колькі плацяць?

— Сто трыццаць!

— Не магу.

— Чаму?

— У мяне ў інстытуце ўсё тое ж, толькі аклад большы.

Барыс Рабенькі

З індыйскага гумару.



Сустрэча.

# НІЎКА



## ПЕРАМЕНА

— Чаму гэта, вы так рэдка сталі заходзіць да нас? — пытае бібліятэкарка чытача. — То раней праз дзень мянялі кнігі, а цяпер раз на месяц.

— Ды... — адказвае той. — Перамена адна здарылася.

— У сямейным жыцці?

— Не. На працы.

— І якая ж гэта?

— Начальнік новы цяпер у мяне...

## НАШЫ ДЗЕЦІ

— Хто зараз можа верыць у прыкмету, што чорная кошка прыносіць бяду? — пытае Мікола ў Элачкі.

— Мышы! — бадзёра адказала Элачка.

З „Весніка Задрыпоніі“

## ЯК ВАС АБСЛУГОЎВАЮЦЬ?

Цікавае пачынанне ўведзена ў гастраноме самаабслугоўвання „Цэнтральны“. Пакупнікоў не падвяргаюць паніжаючаму агляду і абмацванню, а важаць да і пасля пакупкі.

## АБ'ЯВА

Магазіну патрабуюцца пакупнікі.



Made in Zadrypanka.



Калі яму ў гасцях гаварылі: „Адчувайце сябе як дома“, — ён абліваўся халодным потам.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У калгас, на пасаду заггара, прыбыў малады фахавец. Разам з механікам абходзіць гаспадарства. Бачыць: пад адным аўтамабілем спяць двое шафёраў:

— А што гэтыя хлопцы робяць? — пытае малады фахавец.

— Ды, як бачыце, храпавік рэгулююць...

— Малайцы, хай пасляшаюць, каб да абеду закончылі.

*

Журналіст бярэ інтэрв'ю ў аднаго мільярдэра:

— Што памагло вам дабіцца поспеху?

— Перакананне, што грошы не іграюць ролі, што важная толькі праца.

— І, пранікнуўшыся гэтым перакананнем, вы разбагацелі?

— Не, я разбагацеў, калі здолеў пераканаць у гэтым сваіх падначаленых.

## МІНІВЕРШЫ

### СЛОВЫ І СПРАВЫ

Язык быў нядрэнна
падвешаны:
Ён бойка агітаваў
За добрыя справы.
Але сам замешаны
Не быў ні ў адной з гэтых
спраў.

### НА СВОЙ КАПЫЛ

Пускаў умела ў вочы пыл.
Хлусіў заўжды без меры,
Таму усіх на свой капыл
Людзей сумленных мераў.

### РАЗВЯЗКА

На працы ён не браў на пуп,
Дамоў цягнуў, стараўся
Ўсё падабраць і там, і тут...
Пупок і развязаўся.

### УЗЯЛА

Хваліўся:
— П'ю ўсё, што гарыць,
Не возьме чорт, не дбаю!
Чорт сапраўды не ўзяў яго,
Ўзяла яго касая.

Юрась Касцюк



Без слоў.





— Еш, Адам, еш — нічога іншага сёння не будзе.

# Курёзы

## ЧОРТ НА СЛУЖБЕ

У 1301 годзе англійскі пасёлак Лінкольн (цяпер адміністрацыйны цэнтр графства Ліндсі) атрымаў гарадскія правы, адначасова і ўласны герб. Невядома, хто намаляваў эскіз таго герба і чаму прыляпіў на ім фігуру чорта, але герб з чортам збярогся і да нашых дзён.

Цяпер некаторыя дзеячы меры цвердзяць, што месца чорта ў гербе — гэта проста непрыстойна: турысты могуць зрабіць няправільны вывад адносна маралі жыхароў Лінкольна. Але парламент графства большасцю галасоў вырашыў пакінуць вобраз нячыстай сілы на гербе, паколькі цяпер на чарцей мода — усюды ствараюцца секты сатаны і падобныя.

## АНОНС КАФЭ Ў ГАБРАВА

„Наша кафэ „Усім добра“ ўвяло прагрэсіўную форму самаабслугоўвання. Цяпер наведвальнікі абавязаны не толькі прыбраць за сабою посуд, але вымыць яго, выцерці насуха і наліць суп чарговаму кліенту.“




Некаторыя людзі падобны на музычныя інструменты, на якіх ніхто ніколі не іграў.